# ПРАМОВА
## на VI з'ездзе Беларускага прафесійнага Саюза работнікаў культуры

*Мінск*
*28 мая 2010 г.*



**Добры дзень!**
**Вітаю шчыра**
**Прафсаюза грамаду!**
**Сёння ўзяў я ў рукі ліру,**
**Сёння ўзяў сваю дуду,**
**Каб паэзіяй узвысіць**
**Гэты наш высокі сход.**

**Я не буду ірвацца ў высі –**
**Я скажу за наш народ.**

**А народ культуры нашай**
**Цягне свой спрадвечны воз –**
**І заўсёды ён дакажа,**
**Што мы маем слаўны лёс,**
**Што у нас традыцый зорных –**
**Неабсяжны акіян,**
**І што песень больш мажорных,**
**І што святаў караван**
**Па краіне вольна крочыць,**
**А без нас тут – нікуды.**

**Мы да гэтага ахвочы –**
**Сваё сэрца мы заўжды**
**Беларускаму народу**
**Без аглядкі аддадзім…**

**І была заўсёды згода,**
**Развінаўся ўсцяж кілім**
**Разумення, што культура –**
**Ёсць падмурак усяго.**

**Без культуры**
**людзям хмура –**
**Быццам важнага чаго**
**Не хапае, хоць ты трэсні!**
**Вось такая сутнасць тут!..**

**Сёння, ў дзень узнёслы, весні,**
**Скіраваўся наш маршрут**
**У гэту залю прафсаюзаў,**
**Дзе наш з’езд свой рэй вядзе.**

**Адчыніліся ўсе шлюзы,**
**Каб шаноўнай грамадзе**
**Даць магчымасць тут,**
**з трыбуны.**
**Пра набыткі расказаць.**

**І гучаць прамоваў струны,**
**І імкнуцца ўсе дадаць**
**Розных фарбаў у прастору**
**Прафсаюзнага жыцця.**

**Так:**
**ідзём мы сёння ўгору**
**Паслядоўна, без ныцця.**
**А калі праблемаў кола,**
**Ёсць надзейная рука –**
**І вядзе Шаўцоў Мікола**
**Ў светлы ранак наш ЦК;**

**Да ўсяго і ўсіх, хто трэба,**
**Ён знайшоў свой падыход, -**
**І без хмар над намі неба,**
**І шляхі ў суквеццях згод.**

**Прафсаюз трымае чуйна**
**Пульс культурнага жыцця.**
**І вось сёння тут хачу я**
**Вам сказаць без адкрыцця:**
**Не пайму я, хоць ты трэсні, -**
**Ну адкуль усплыў той спрут?!**

**Сёння ў нас другія песні,**
**І культурны наш маршрут**
**Скіраваўся у фінансы,**
**І загад ёсць: грошы даць!**
**Бо ў бюджэце –**
**спрэс рамансы**
**І прасвету не відаць.**

**І паказчыкаў прагнозных**
**З нейкіх мінскіх верхатур**
**Навалілі з верхам, грозна**
**І сказалі:** ***“Каб ажур***
***Быў у гэтай справе важнай!***
***Закасайце рукавы***
***І кідайцеся адважна***
***Там, дзе грошай – як травы!***
***Формы, метады мяняйце,***
***Крэатыў свой пашырайце,***
***І праз гэта забірайце***
***Вы пянёнзы у людзей!..”***

**Ой, у нас было надзей**
**Вельмі шмат,**
**што людзі дружна**
**Кашалёк расшпіляць свой…**

**А пайшло усё натужна –**
**Беларус паўстаў гарой**
**За капейку з мазалямі.**

**Ужо пра вёску не кажу, -**
**Ім капеек там у краме**
**Не хапае, вам скажу...**

**Але ж планаў аграмадных**

**Нам ніхто не адмяняў;**
**Кожны год**
**усё больш ладна –**
**І асветнік застагнаў...**

**Нейкіх хітрыкаў карункі**
**Наляпіліся вакол,**
**А найноўшыя варункі**
**Болей цягнуць на прыкол:**
**За пазыкай банк штурмуюць**
**(А працэнты ж аддаваць!),**
**І імкнуцца хоць якую**
**Падпрацоўку атрымаць;**
**І сталярацъ, і слясарацъ –**
**Зарабляюць грошы, каб**
**Ружавелі чыісьці мары**
**Каб чыноўны рос маштаб.**

**Хто каваць рублі не ў стане**
**Ад рання і да рання,**
**Той заўсёды у загане –**
**І ні буркі, ні каня.**

**І ляцяць акладаў рэшткі,**
**І вымовы… Што ажно**
**Наш абком узняўся ўрэшце –**

**Афанасенка даўно**
**Зразумеў:**
**культуру ганяць!**

**І пачаў ён ратаваць:**
**Што забралі – адбіваць,**
**Юрідычна ўсё трымаць,**
**У высокіх кабінетах**
**Голас праўды уздымаць…**

**Але ж ён адзін не ў стане**
**Неабдымнае абняць.**

**Вось такая заварушка!..**

**Хай бы голас свой узняў**
**Наш міністр спадар Латушка**
**Супраць гэтых цьмяных спраў –**
**Каб было абсурду меней,**
**Каб не знікла ўсё дарма,**
**Каб усталі мы з каленяў**
**З-пад вось гэтага ярма…**

**Не – культуру перакосіць,**
**І крычы тут – не крычы…**
**Як сказаў шаноўны Козік:**

*“Кадры мкнуцца уцячы*
*Ад гаротнага бюджэту*
*Ў эканоміку, бо там*
*Цікавейшыя сюжэты”.*

**Ну навошта рушыць Храм?...**

**І руку трымаць павінен**
**Прафсаюз на пульсе тым –**
**Не муціліся каб плыні,**
**Каб заўсёды быў уздым**
**І ў настроі, і ў рабоце,**
**Каб жылі мы без бяды...**

**Мы заўсёды у паходзе,**
**Мы з народам,**
**у народзе,**
**Мы – асветнікі заўжды!**

**… Я спыняюся на гэтым –**
**Бо рэгламент не маўчыць! –**
**Голас мой прашу ўлічыць –**
**І работу камітэта**
**Здавальняючай лічыць.**



